XVIII Зьезд Партыі БНФ

# Магістрат



«МАГІСТРАТ» — Газэта Віцебскай Рады Партыі БНФ №10(94), кастрычнік, 2017г.

# СТАРШЫНЁМ ПАРТЫІ БНФ І БНФ "АДРАДЖЭНЬНЕ" АБРАНЫ РЫГОР КАСТУСЁЎ




**XVIII Зьезд Партыі БНФ (XV Зьезд Грамадзкага аб'яднаньня) абраў новага старшыню Партыі і Руху. Ім стаў 60-гадовы Рыгор Кастусёў, экс-кандыдат у прэзыдэнты, які раней займаў пасаду намесьніка старшыні партыі.**

Рыгор Кастусёў абраны старшынём Партыі БНФ у першым туры канкурэнтнага галасаваньня – яму аддалі перавагу 107 дэлегатаў. Заля сустрэла агучаныя вынікі падліку галасоў аплядысмэнтамі.

У бюлетэнях для галасаваньня былі 6 прозьвішчаў: Ільля Дабратвор, Вольга Дамаскіна, Рыгор Кастусёў, Алесь Таўстыка, Аляксандар Страх, Васіль Астроўскі.

Намесьнікамі старшыні абраныя Юры Лукашэвіч, Аляксей Янукевіч, Вадзім Саранчукоў, Зьміцер Салошкін, Аляксандар Стральцоў.

За Вольгу Дамаскіну прагаласавалі 32 дэлегаты.

Іншыя галасы разьмеркаваліся наступным чынам:

Дабратвор — 12, Астроўскі — 7, Страх — 2, Таўстыка — 2.

У выніку таемнага галасаваньня быў абраны кіруючы орган партыі – Сойм у складзе 51 сябры Сойму (апроч абраных старшыні і намесьнікаў старшыні ў Сойм было вылучана 66 чалавек). Была таксама сфармаваная рэвізійная камісія ў складзе 5 асобаў, старшынём рэвізійнай камісіі на яе першым пасяджэньні быў абраны Алесь Каліта.

XVIII справаздачна-выбарчы зьезд Партыі БНФ (XV Зьезд ГА БНФ «Адраджэньне») прайшоў у Менску ў Палацы Мастацтваў. У ім узялі ўдзел 163 дэлегаты.

З вітальным зваротам да дэлегатаў зьезду выступіла дэпутатака Палаты прадстаўнікоў Алена Анісім, а таксама былі зачытаныя вітаньні ад старшыні Рады БНР Івонкі Сурвілы.

Зьезд Партыі БНФ ухваліў шэсьць рэзалюцыяў:

1. За беларускую Беларусь! Падтрымка беларускай мовы, адукацыі і культуры – гарантыя ўстойлівасьці беларускай дзяржаўнасьці
2. Спыніць палітычныя рэпрэсіі! Свабоду палітвязьням!
3. "АБ СВЯТКАВАНЬНІ 100-ГОДДЗЯ АБВЯШЧЭНЬНЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БЕЛАРУСКАЙ НАРОДНАЙ РЭСПУБЛІКІ"
4. Саюз з Крамлём – камень на шыі беларускай дзяржаўнасьці
5. Нюрнбэрг над камунізмам – ніколі ня позна!
6. Будучыня краіны – Міжмор'е!

# СПЫНІЦЬ ПАЛІТЫЧНЫЯ РЭПРЭСІІ! СВАБОДУ ПАЛІТВЯЗЬНЯМ!

**Заява XVIII Зьезду Партыі БНФ**

Зьезд Партыі БНФ з занепакоенасьцю адзначае, што цяперашнія ўлады Беларусі захоўваюць адміністратыўны і крымінальны перасьлед у якасьці сродку барацьбы супраць палітычных апанэнтаў і супраць незалежных грамадзкіх структураў.

У арсенале палітычна матываванага ўціску асабліва абуральнымі зьяўляюцца:

- Масавы адміністратыўны перасьлед у выглядзе затрыманьняў, арыштаў і буйных штрафаў у дачыненьні да ўдзельнікаў мірных акцыяў пратэсту, у тым ліку ў гэтым годзе – сотняў удзельнікаў (у тым ліку дзясяткаў актывістаў БНФ) справядлівых мірных пратэстаў супраць сацыяльнай палітыкі дзяржавы ў выглядзе недарэчнага і памылковага "падатку на дармаедаў", уведзенага дыкрэтам №3.
- Нагнятаньне істэрыі ў дзяржаўных СМІ напярэдадні сёлетняга Дня Волі 25 сакавіка, а таксама разгортваньне крымінальнага перасьледу дзясяткаў актывістаў і былых актывістаў патрыятычных арганізацыяў у межах гэтак званай "справы патрыётаў", якім было прад'яўленае абвінавачаньне ў падрыхтоўцы да масавых беспарадкаў, а пасьля развалу гэтага неабгрунтаванага абвінавачаньня – канструяваньне відавочна беспадстаўнай новай крымінальнай справы па стварэньні незаконнага ўзброенага фармаваньня.
- Ператрусы, допыты і затрыманьні ў межах крымінальнай справы супраць незалежных прафсаюзаў, адзін з кіраўнікоў якіх цяпер знаходзіцца пад вартай.

Партыя БНФ рашуча асуджае ўціск на адвакатаў, якія абараняюць ахвяраў палітычнага перасьледу, і разглядае пазбаўленьне магчымасьці займацца прафэсійнай адвакацкай дзейнасьцю як спробу пазбавіць ахвяраў палітычнага перасьледу магчымасьці прававой абароны ад несправядлівага і палітычна матываванага перасьледу.

Партыя БНФ патрабуе:

- Вызваленьня ўсіх асобаў, якія кваліфікаваныя беларускімі праваабарончымі арганізацыямі як палітычныя вязьні, у тым ліку Ігара Комліка, Зьміцера Паліенкі, Міхаіла Жамчужнага.
- Спыненьня крмінальных справаў супраць фігурантаў "справы патрыётаў" і зьняцьця ўсіх абвінавачаньняў у стварэньні незаконнага ўзброенага фармаваньня.
- Спыненьня крымінальнай "справы прафсаюзаў" і зьняцьця ўсіх абвінавачаньняў супраць фігурантаў гэтай справы.
- Спыненьня практыкі перасьледу ўдзельнікаў мірных акцыяў пратэсту і стварэньня заканадаўчых і практычных гарантыяў свабоднай рэалізацыі грамадзянамі права на ўдзел у мірных сходах.

**Магістрат**

**Выдавец**:
Віцебская Рада
Партыі БНФ
**Рэдактар:**
Канстанцін Смолікаў
**Наклад:**
299 паасобнікаў

***http://kamunikat.org/mahistrat.html***

Пункты погляду рэдакцыі і аўтараў могуць не супадаць.

Друкуецца на правах рукапісу для ўнутранага карыстаньня

Можа выкарыстоўвацца ў рэкламных і агітацыйных мэтах.

**ВІЦЕБСКАЯ АБЛАСНАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ ПАРТЫІ БНФ**
**вул. Церашковай, д.11, п.1.13, г.Віцебск, Рэспубліка Беларусь, 210035**
Тэлефоны для кантактаў:
**8-029- 710-42-23, 713-22-00, 218-98-38, 711-24-47, 593-15-34, 517-32-53.**
**E-mail: kas_vit@tut.by**

**WWW.NARODNY.ORG**
**VK.COM/PARTYJA_BNF**
**WWW.MOLADZ.INFO**
**VK.COM/BNF_MOLADZ**

**АХВЯРАВАНЬНІ НА ДЗЕЙНАСЬЦЬ**
**Рэквізіты:**
**Грамадскае аб'яднанне БНФ «Адраджэньне» Адрас: г. Мінск, вул. Чарнышэўскага, д. 3, пак.48а УНП 100052236**
**ААТ «Банк БелВЭБ»**
**г. Мінск Мінскае аддзяленне №2 Адрас банка: 220004 г.Мінск, пр-т Пераможцаў, 100**
**BIC SWIFT: BELBBY2X**
**IBAN BY70 BELB 3015100147004022600О**
**Прызначэнне плацяжу: Дабрачынны ўнёсак**
**Дзякуй за Вашыя ахвяраваньні!**

# НАВОШТА БЕЛАРУСІ ПАТРЭБНЫ БНФ

Часы змяняюцца, усё мінае. І БНФ ужо не той, і Лукашэнка, і краіна, і мы з вамі, інтэрнэт-карыстальнік. Вы глядзіце на свет «крытычна» і «адэкватна», як Вам падаецца, таму не хацелі б у ім пакінуць нічога, акрамя самога сябе: усё рэшта – састарэлае і лішняе…

Да чаго ўся гэтая дэгрэсія? На выходных прайшоў 18-ы З'езд БНФ, легендарнай партыі, што некалі паспрыяла вяртанню незалежнасці нашай краіны. Справы ў партыі зараз неважнецкія, таму любыя навіны пра яе ды ейных функцыянераў найчасцей вітаюцца кпінамі: «Ну, што там у пенсіянераў?» «Каго там – Рыгорку выбралі?» і г.д. Як у Ніцшэ: «Бачыш каго на краю прорвы – штурхані».

А сур'ёзна – ці патрэбны нам той БНФ, які некалі быў магутнай сілай, а сёння пераўтварыўся ў тое, у што пераўтварыўся?

Можа час мінуў і варта ўжо самараспусціцца ды разысціся па дамах? Палітыкі ў краіне няма, дык навошта нам гэтыя няўцямныя прэтэнзіі на «палітычную дзейнасць»? Што толку? Вы ж так лічыце, праўда? А я – не.

Так, у Беларусі сёння няма палітыкі, яна была некалі і будзе калісьці ў будучым. І вось акурат для гэтай будучыні, дня заўтрашняга, немінуча спатрэбяцца партыі структуры, пад сцягамі якіх можна будзе сабрацца. Вы думаеце, што падчас пераменаў усё старое адамрэ і прыйдуць цалкам новыя сілы і партыі? Магчыма. Але, найхутчэй, прыйдуць акурат новыя людзі, а вось партыі застануцца тыя ж – правыя, левыя, цэнтрысты і г.д. І тады акурат БНФ зможа ўзяць свае 20% у парламенце, стаўшы паўнавартасным палітычным суб'ектам.

А што ж зараз? А зараз, ва ўмовах аўтарытарнай улады ды перманентнай пагрозы з боку Расеі, нам як паветра патрэбны палітычна-аформлены кірунак на адстойванне незалежнасці, нават калі гэта толькі дэкларацыі – «пусты гук». Калі такой партыі, нават хворай, слабой і нямоглай, не стане – гэта будзе ўдарам для ўсіх патрыётаў: яшчэ адзін бар'ер на мяжы з усходнім суседам знікне. БНФ, як не парадаксальна, таксама фактар нацыянальнай бяспекі, пра што ведаюць і Лукашэнка, і Пуцін, і нават котка, якая жыве на офісе партыі на Чарнышэўскага, 3 – усе, акрамя Вас, дарагі фэйсбук-карыстальнік.

Дык чаго ж «яны» зараз такія слабыя ды перспараныя?.. Скажыце, а хто зараз моцны – якая апазіцыйная партыя, рух, арганізацыя? Усе, здаецца, у больш-менш роўным становішчы. Адно, што Дзмітрыеву трэба са скуры вон лезці, каб піярыць сваю кампанію, а БНФ і так усе ведаюць – гэта брэнд, пад які ў блытаным светаўспрыманні сярэдняга беларуса падпадае і Дзмітрыеў, і Лябедзька, і Статкевіч, і ўсе астатнія.

У нас прынята кпіць з таго, што «БНФ – партыя не лідэра, а ідэі», але што можна супрацьпаставіць такому сцверджанню па факце? У Беларусі сёння дзве ідэалагізаваныя палітычныя сілы: камуністы і бэнээфаўцы. Усё рэшта – кан'юктурныя праекты, схільныя змяняць пазіцыю пад выбары, грошы, настроі ў грамадстве.

Час міне, але і камуністы, і бэнээфаўцы застануцца, бо гэта палярныя праекты, а без палюсоў і карціна свету немагчымая.

Дарагі інтэрнэт-карыстальнік, вы скажаце, што абывацель не ведае нават сённяшняга лідара БНФ: Кастусёў, Янукевіч, Пазняк?.. Але ці гэта дрэнна? Я б, да прыкладу, хацеў жыць у краіне, дзе ўсё працуе і ты можаш не ведаць прозвішча прэзідэнта. Абывацель ведае, што БНФ – гэта нешта пра «нацыяналізм», мову, Пагоню і г.д. – гэтага дастаткова: калі ён пойдзе ў партыю, то не за Кастусёвым, а за каштоўнасцямі. Куды горш, калі арганізацыя ці кампанія ствараецца пад лідара, а калі той не спраўляецца – усё развальваецца, як было ўжо безліч разоў. У тым і розніца.

БНФ, як і нашы сілавыя структуры – гэта зрэз грамадства. Там ёсць людзі, якія нам падабаюцца і сумленна робяць сваю працу, а ёсць карупцыянеры, здраднікі ды іншая набрыдзь – па-іншаму немагчыма. Але што будзе з краінай, пазбаўленай базавых дзяржаўных інстытутаў, такіх як войска ці міліцыя? Што будзе з грамадска-палітычным полем, пазбаўленым партыі, якая прадстаўляе патрыятычны кірунак? Правільна, будзе – Вейшнорыя.

Вейшнорыя – гэта ідэальны праект, які немагчыма нават крытыкаваць, бо ён – віртуальны. За гэта яго і любяць. Адэптам Вейшнорыі нічога не трэба рабіць, ад іх нічога не патрабуецца, акрамя лайкаў, рэпостаў, сцёбу і вай-фая. Так працуе наша сучаснасць: усе бездакорныя праекты – віртуальныя, усё рэальнае – офлайнавае – дрэннае, бо патрабуе адарваць вочы ад экрану гаджэта.

Дарагі інтэрнэт-карыстальнік, Вам жа няма розніцы каго крытыкаваць: БНФ, парады, беларускае войска, вучэнні… Распусціць, аддаць, скасаваць – хай застанецца адно стол, ноўтбук, віртуальная Вейшнорыя, кава з малаком і – хопіць. А нам і рэшце краіны БНФ яшчэ спатрэбіцца, вось паглядзіце.

Алесь Кіркевіч,
belsat.eu

# ЗА БЕЛАРУСКУЮ БЕЛАРУСЬ!

Падтрымка беларускай мовы, адукацыі і культуры – гарантыя ўстойлівасьці беларускай дзяржаўнасьці

**Заява XVIII Зьезду Партыі БНФ**

Мы, удзельнікі XVIII Зьезду Партыі БНФ, перакананыя, што развіцьцё беларускай мовы, адукацыі і культуры зьяўляюцца прынцыповай умовай і гарантыяй устойлівасьці беларускай дзяржаўнасьці. Мова – гэта душа народа. Без выразнай нацыянальнай і моўнай ідэнтычнасьці дзяржаўныя і грамадзкія інстытуцыі застануцца пазбаўленымі сэнсу існаваньня і чужымі для народа. Мы лічым безпадстаўнымі і небясьпечнымі аблуды, што Рэспубліка Беларусь можа быць пабудаванай на іншым падмурку, апроч як нацыянальная беларуская дзяржава, заснаваная на грунце беларускай мовы, адукацыі і культуры.

Мы з занепакоенасьцю адзначаем, што, нягледзячы на пазытыўныя зрухі ў грамадзтве на карысьць беларушчыны, ў палітычным курсе дзейнай улады ў цэлым захоўваецца неспрыяльны вектар для развіцьця мовы і культуры тытульнай нацыі. Спрыяльнае стаўленьне грамадзтва да такіх праяваў нацыянальнай культуры як нацыянальны арнамент ня можа кампенсаваць наяўнай дыскрымінацыі беларускай мовы ў дзяржаўных установах, зьмяншэньня аб'ёму беларускамоўнага школьніцтва, адсутнасьці вышэйшай адукацыі на беларускай мове, недабразычлівага, а часам і адкрыта варожага стаўленьня асобных дзяржслужбоўцаў да праяваў нацыянальнай культуры і беларускай ідэнтычнасьці ў грамадзкім жыцьці. Цяперашняя дзяржаўная палітыка ўціску на структуры грамадзянскай супольнасьці, невыкарыстаньне яе патэнцыялу ў культурніцкай сфэры, а таксама неэфэктыўнае супрацоўніцтва з беларускай дыяспарай і слабая падтрымка беларусаў замежжа шкодзяць нацыянальным інтарэсам.

Гэткі дзяржаўны курс зьяўляецца памылковым і, у даўгатэрміновай пэрспэктыве, небясьпечным для ўстойлівасьці беларускай дзяржавы. Рэспубліка Беларусь будзе ўстойлівай і моцнай дзяржавай толькі тады, калі будзе ўсьведамляць і рэалізоўваць сабе як нацыянальная дзяржава беларускага народу, якая створаная і развіваецца як форма дзяржаўнага будаўніцтва беларускай нацыі, на аснове беларускай нацыянальнай культуры і беларускай мовы. Безумоўным прыярытэтам для дзяржаўнай палітыкі павіннае быць развіцьцё беларускамоўнай адукацыі на ўсіх узроўнях, уключна з унівэрсітэцкім.

На цяперашнім этапе ў якасьці першачарговых крокаў для зьмяненьня дзяржаўнай палітыкі мы разглядаем наступныя захады, скіраваныя на развіцьцё беларускай мовы, адукацыі і культуры:

- Стварэньне на заканадаўчым узроўні дзяржаўнай праграмы развіцьця адукацыі на беларускай мовы, з прыярытэтнай дзяржаўнай падтрымкай грамадзкай ініцыятывы па стварэньні беларускага нацыянальнага ўнівэрсітэту, у якім адукацыя будзе весьціся на беларускай мове.
- Перавод дзяржаўнага справаводзтва і заканапраектнай дзейнасьці на беларускую мову, каб усе нарматыўна-прававыя акты распрацоўваліся і прымаліся на беларускай мове.
- Замацаваньне на заканадаўчым ўзроўні гарантыяў атрыманьня спажыўцамі тавараў і паслугаў інфармацыі пра тавары і паслугі на беларускай мове.
- Увядзеньне ў беларускую замежнапалітычную дактрыну ў якасьці імператыву падтрымку суачыннікаў за мяжой, у тым ліку з распрацоўкай канцэпцыі "карты суайчынніка", якая б замацоўвала сувязь беларускай дыяспары з Бацькаўшчынай.
- Павелічэньне дзяржаўнага фінансаваньня праграмаў па развіцьці беларускай культуры і мовы, у тым ліку з выдзяленьнем сродкаў на конкурснай аснове недзяржаўным ініцыятывам і арганізацыям грамадзянскай супольнасьці.

# АБ СЬВЯТКАВАНЬНІ СТАГОДДЗЯ НЕЗАЛЕЖНАСЬЦІ БНР

**Заява XVIII Зьезду Партыі БНФ**

25 сакавіка 2018 году – найвялікшы юбілей у гісторыі Беларусі. Сто гадоў таму была прынятая 3-я Устаўная грамата БНР, якая абвясьціла незалежнасьць Беларусі ў яе этнічных межах:

"Цяпер мы, Рада Беларускай Народнай Рэспублікі, скідаем з роднагп краю апошняе ярмо дзяржаунай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскіе цары на наш вольны і незалежны край.

Ад гэтага часу Беларуская Народная Рэспубліка абвяшчаецца Незалежнай і Вольнай Дзяржавай."

Менавіта з гэтага часу беларускі народ заняў свой "пачэсны пасад між народамі" і стаў суб'ектам міжнароднага права. Беларусы атрымалі шанец стварыць свае ўласныя дзяржаўныя ўстановы, сваю сыстэму адукацыі, разгалінаваную сетку культурніцкіх асяродкаў, дзяржаўны статус нашай сымболікі і мовы, наяўнасьць дыпляматычных стасункаў зь іншымі дзяржавамі, сацыяльныя і эканамічныя правы для ўсіх грамадзянаў.

Менавіта так склаўся падмурак сучаснай беларускай дзяржаўнасьці і незалежнасьці. Без абвяшчэньня Беларускай Народнай Рэспублікі не было б сучаснай Рэспублікі Беларусь. Таму юбілей яе ёсьць найважнейшым сьвятам для ўсіх тых, для каго нашая незалежнасьць і суверэнітэт ёсьць сапраўднымі каштоўнасьцямі.

У 1990 годзе, па ініцыятыве Беларускага Народнага Фронту, пачалося масавае сьвяткаванне Дня Волі па ўсёй нашай краіне. У 1996 годзе Партыя БНФ стварыла першы агульнанацыянальны Аргкамітэт па сьвяткаваньні Дня Волі на чале з Васілём Быкавым, і з гэтага часу Дзень Волі стаўся сімвалам змаганьня беларусаў за сваю незалежнасць.

Напярэдадні сьвята 100-годзьдзя абвяшчэньня незалежнасьці Беларусі Партыя БНФ звяртаецца да ўсіх беларусаў: "Шаноўныя грамадзяне, давайце разам годна адсьвяткуем стагодзьдзе пачатку нашай сучаснай дзяржаўнасьці!"

Зьвяртаемся да ўсіх беларускіх партый і рухаў: "Далучаймася да працы агульнанацыянальнага аргкамітэту па сьвяткаваньні стагодьдзя абвяшчэньня нашай незалежнасьці!" Партыя БНФ спадзяецца, што ўсе, для каго дзяржаўнасьць і незалежнасьць Беларусі ёсьць каштоўнасьцямі, увойдуць у гэты аргкамітэт. Мы лічым, што першыя мерапрыемствы павінны быць арганізаваныя на стагодзьдзе Усебеларускага Кангрэсу, які адбываўся з 5 па 17 снежня 1917 года ў г. Менску.

Мы таксама зьвяртаемся да дзяржаўных органаў Рэспублікі Беларусь з заклікам правесьці сьвяткаванне гэтай юбілейнай даты на дзяржаўным узроўні. Пры гэтым Партыя БНФ гатовая ўзяць на сябе распрацоўку дэтальнага пляну дзяржаўных сьвяточных мерапрыемстваў.

Як адзін з суб'ектаў Віленскага мэмарандуму, Партыя БНФ бачыць Раду Беларускай Народнай Рэспублікі галоўным ўдзельнікам ўсіх сьвяточных мерапрыемстваў, арганізаваных як грамадствам, так і дзяржавай, як у Беларусі, так і ў замежжы.

Людзі Беларусі! Годна адсьвяткуем разам юбілей абвяшчэньня незалежнасьці Беларускай Народнай Рэспублікі! Як гучыць у Гімне БНР: "Выйдзем шчыльнымі радамі!"

Няхай жыве Дзень Волі! Жыве Рада Беларускай Народнай Рэспублікі! Жыве Беларусь!

# БУДУЧЫНЯ КРАІНЫ – МІЖМОР’Е!

**Заява XVIII Зьезду Партыі БНФ**

Сучасны гістарычны момант характарызуецца адраджэньнем канцэпцыі саюзу краінаў паміж Балтыйскім, Чорным і Адрыятычным марамі, каротка названы Міжмор’ем ці Трохмор’ем.

Неабходна нагадаць, што Партыя БНФ разам з іншымі палітычнымі сіламі гэтай часткі Эўропы, стаяла ля вытокаў падобнай канцэпцыі, прадэкляраваўшы ў пачатку 90-х год XX ст. ідэю стварэньня Балта-Чарнаморскага Саюзу.

Дзеяньні праціўнікаў гэтай канцэпцыі, як і негатоўнасьць краінаў рэгіёну пайсьці за ёй тады, адсунулі рэалізацыю палітычнага праекту. Падзеі канца 2000-х гадоў, агрэсія Расеі, слабасьць і ўнутраны разлад у краінах “Старой Эўропы”, нязьменная роля Злучаных Штатаў Амэрыкі, як гаранта бясьпекі ў Эўропе і згодна з Будапэшцкім Мэмарандумам, аднаго з гарантаў незалежнасьці Рэспублікі Беларусь, усьвядомілі ўсім краінам, што ў нас адзіны лёс і нам няма чаго дзяліць.

Краіны Міжмор’я аб’яднаныя як супольным гістарычным лёсам, падабенствам культураў, так і супольнымі эканамічнымі інтарэсамі. Асноўнай задачай для ўсіх нас зьяўляецца пазбаўленьне ад залежнасьці ў энэргарэсурсах і ўмацаваньне свайго статусу як транзітных краінаў.

Натуральным ахоўным парасонам над краінамі Міжмор’я зьяўляюцца сілы НАТА, якія стаяць на варце супакою і парадку ў Эўропе. Адным з лёзунгаў Партыі БНФ ёсьць лёзунг “Вяртаньня ў Эўропу”. Пад такім вяртаньнем мы разумеем, перад усім, уваходжаньне Беларусі ў НАТА і далучэньне да альянсу краінаў Міжмор’я. Тут мы зможам сапраўды адчуць сябе ў бясьпецы і мець мажлівасьці для разьвіцьця ўсіх талентаў і сілаў нашага народу.

Незалежнасьць і свабода – у сяброўскай сям’і краінаў Міжмор’я!

# САЮЗ З КРАМЛЁМ – КАМЕНЬ НА ШЫІ БЕЛАРУСКАЙ ДЗЯРЖАЎНАСЬЦІ

**Заява XVIII Зьезду Партыі БНФ**

Расейская Фэдэрацыя, няздольная вызваліцца з мафіёзна-карупцыйных абцугоў, зьменшыць сваю крытычную залежнасьць ад цэнаў на нафту й газ, ці скараціць навукова-тэхналягічнае адставаньне ад разьвітых краінаў, стала эканамічным тытанікам пачатку XXI ст., які павольна, але неўнікнёна ідзе на дно, пагражаючы пацягнуць за сабою ў вір бліжэйшых суседзяў. Ідэалягія барбарскага антыцывілізацыйнага імпэрыялізму, пры гэтым, усё болей апаноўвае як кіроўныя эліты, так і насельніцтва – фактычна ператварыўшыся ўжо ў афіцыйную падставовую ідэю Расеі. Прыхільнікі яе адкрыта заклікаюць да перагляду межаў, да распальваньня войнаў і сутычак, запазычваюць злавесныя ідэі прымусу і падаўленьня адначасова са сталінізму і нацызму, адмаўляюць сувэрэнітэт Беларусі, і самое існаванне беларускага народу. Гэтыя фактары робяць нават само знаходжаньне Беларусі ў зьвязе з РФ шкодным, асабліва ў доўгатэрміновай пэрспэктыве, для нацыянальных інтарэсаў беларускага народу.

І надзвычай шкодным ёсьць удзел беларускіх узброеных сілаў у сумесных вучэньнях з вайсковымі фармаваньнямі РФ, бо такія падзеі робяць Рэспубліку Беларусь у вачах міжнароднай супольнасьці несамастойнай, залежнай ад прыхамацяў Крамля, суўдзельніцай імпэрскай агрэсіўнасьці - гэта пагражае ўзаемнакарысным дачыненьням з суседзямі і гандлёвымі партнэрамі, што ўрэшце можа мець мець нэгатыўныя наступствы як з палітычнага, так і з эканамічнага боку, і можа сумным чынам адбіцца на бясьпецы і дабрабыце кожнага беларуса.

Партыя БНФ, кіруючыся ўсьведамленьнем і абавязкам абароны інтарэсаў беларускага народу:

- заяўляе, што Рэспубліка Беларусь мусіць пакінуць імпэрскія псэўдасаюзьніцкія структуры, у першую чаргу г.зв. Арганізацыю Дамовы аб Калектыўнай Бясьпецы (АДКБ);
- асуджае вучэньні расейскіх узброеных сілаў на тэрыторыі нашай краіны;
- патрабуе вываду ваенных аб’ектаў пад кіраваньнем Масквы тэрыторыі Рэспублікі Беларусь;
- заяўляе пра неабходнасьць стварэньня паўнавартаснай памежнай інфраструктуры і абсталяваньня мяжы паміж Беларусьсю ды Расейскай Фэдэрацыяй, а таксама неадкладнага ўвядзеньня кантролю на мяжы з Расеяй;
- заяўляе пра неабходнасьць ўзмацненьня самастойнасьці Ўзброеных Сілаў РБ, падвышэньня ўзроўню тэхнічнага аснаджэньня, і, што найважней, выхаваньню праўдзівага патрыятызму ў шэрагах УС, бязь недарэчных рудымэнтаў савецкай мінуўшчыны, з апорай на гісторыю і традыцыі Беларусі і беларускага народу.

Жыве Беларусь! Жыве беларускае войска!

# НЮРНБЭРГ НАД КАМУНІЗМАМ – НІКОЛІ НЯ ПОЗНА!

**Заява XVIII Зьезду Партыі БНФ**

Мінае 100 гадоў, ад выйсьця на палітычны далягляд антылюдзкай камуністычнай ідэалёгіі. Бальшавізм, ЧК-НКВД, ваенны камунізм, НЭП, калектывізацыя, Вялікі Тэрор, індустрыялізацыя, культ асобы, застой, перабудова – зьмяняліся маскі, але не зьмянілася сутнасьць. Злачынствы сыстэмы сягнулі нябачаных у гісторыі памераў, але суду і дагэтуль няма. Злачынства без пакараньня.

Ня трэба забываць, што надалей найбуйнейшая краіна сьвету, Кітай, знаходзіцца пад камуністычным ігам. Лічба ахвяраў камуністычных рэжымаў у сьвеце дагэтуль невядомая і, верагодна, складае мільёны. В’етнам, Лаос, Паўночная Карэя, Нікарагуа і многія іншыя краіны ўяўляюць сабой выпаленую зямлю пасьля панаваньня камунізму.

Партыя БНФ ад пачатку свайго існаваньня рабіла моцны антыкамуністычны акцэнт. Злачынствы камуністычнай сыстэмы сталі рухавіком зьменаў, якія наступілі ў Савецкім Саюзе і прывялі да распаду СССР.

Сёньня неабходна нагадаць аб тым, што нягледзячы на тое, што гэтая антылюдзкая ідэалёгія хоць і ня мае сусьветнай магутнасьці, працягвае атручваць розумы многіх нашых суграмадзян. Так адбываецца, бо не адбыўся суд над камунізмам, надалей стаяць помнікі крывавым правадырам, а памяць мільёнаў ахвяраў злачыннай ідэалёгіі надалей не ўшанавана належным чынам.

Партыя БНФ выступае за скліканьне Міжнароднага трыбуналу над камунізмам, які павінен, разгледзеўшы сьведчаньні і дакумэнты, ажыцьцявіць справядлівы суд над антылюдзкай ідэалёгіяй.